№ 2 Вільня, Субота 26 Кастрычніка 1929 г. Год I

# БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

## ТЫДНЯВІК

АДРЭС РЭДАКЦЫІ і АДМІНІСТАРЦЫІ: Вільня, Вялікая вул № 3 кв. 10.

„Б. ГАЗ." каштуе на год—8 зал., на паўгоду 4 зал.; на чверць году—2 зал., на 1 месяц—1 зал.

ЦАНА АБВЕСТАК: на 1 старонцы 30 гр. 2 і 3—25 гр., на 4—20 гр., за радок дробнага друку ў аднэй палосцы.

—Па загаду Віленскага Гродзкага Староства № 3846, першы нумар нашай газэты сканфіскаваны („заенты") за наступныя стацьці: 1) „Адзіны нацыянальны фронт", 2) Пэрспэктывы вайны, 3) Праз новую здраду, да новага ашуканства і 4) Мясцовая хроніка.

Гэты (2-гі) нумар выпускаем толькі з неканфіскаваных артыкулаў першага, пакідаючы месца сканфіскаваных чыстым.

420223
140075
Lietuvos TSR Mokslų Akademijos Centr. Biblioteka

# З газэт

ПРЫЗНАНЬНІ САМОЙ БУРЖУАЗІІ.

Буржуазыйныя газэты бяруць на сябе абавязак заўсёды пісаць аб СССР, што там гаспадарчы крах, што пануе голад, бунты і г. д., адным словам, што ні сёньня, то заўтра будзе канец саветам. Гэтым яны хочуць дасягнуць дзьве мэты: падарваць сымпатыю мас да першай рабочай дзяржавы, і затушаваць тое што робіцца ў капіталістычных дзяржавах. У гэтай рабоце памагаюць буржуазіі і сацыял-угадоўцы з пад знаку ППС, правіцы, „Вызваленьня“ і інш.

Аднак, гаспадарчы крызіс, які цяпер ахапіў увесь капіталістычны сьвет, пры мушае і аб сабе нешта сказаць.

Чым-жа могуць пахваліцца нашыя паны?

Вось што чытаем у найбольшай санацыйнай газэце „Ilustrowany Kurjer Codzienny“ з 30 вер. 1929 г. аб гаспадарчым палажэньні.

„Наш гаспадарчы гарызонт з а ц я м н я е ц ц а ш т о р а з б о л ь ш. (падкрэсьленьне „Kurjera Ilustrowan.“). Адусюль н а д ы х о д з я ц ь х м а р ы, якія ахопліваюць ўсё гаспадарчае жыцьцё.

Апошняя справаздача Банку Краёвай Гаспадаркі настройвае вельмі пэсымістычна. Аказваецца, што б о л ь ш а с ь ц ь н а ш а й п р а м ы с л о в а с ь ц і ў ж н і ў н і а п ы н у л а с я ў в ы р а з н ы м с т а н е п е р а с і л е н ь н я. Адносіцца гэта, перадусім, да гутніцтва і прамысловасьці мэталюргічнай, хімічнай, драўлянай, гарбарскай і шмат іншай.

Калі гэты малюнак дапоўнім цяжкім к р ы з ы с а м, які т р ы в а е з а ў с ё д ы н а н а ш ы м г р а ш о в ы м р ы н к у (у жніўні працэнт пратэстаў у Польскім Банку быў 5. 21 прац.), х р а н і ч н а й с л а б а с ь ц ю г а н д л ю, здэкапіталізаванага і зьбяднеўшага, з а с т о е м к в а т э р н а г а б у д а ў н і ц т в а, у к а н ц ы у з р а с т а ю ч ы м ц я ж а ч ы м з б о ж а в ы м п е р а с і л е н ь н е м—то сапраўды малюнак здавальняюча(?) асьвятляе а г р а м а д н ы я т р у д н а с ь ц і, якія мае унутраная наша гаспадарчая сытуацыя.“

ЧАМУ ДАРАГІЯ ПРАМЫСЛОВЫЯ ТАВАРЫ?

Апошнімі часамі наш селянін наглядае наступнае зьявішча: збожжа і наагул земляробскія прадукты зусім танныя, а калі захочам купіць нешта з фабрычнага вырабу, дык такія цэны, што і даступіцца нельга.

Чым вытлумачыць гэтае зьявішча?

Паслухаем, што кажа украінская газэта „Сель Роб“ у N 136.

Сьпярша там чытаем аб тым, што кажуць ворагі працоўных—аб прычынах дарагоўлі. Яны хочуць давесьці сялянам, што тавары таму дарагія, што рабочыя жадаюць падвышкі платы, робяць забастоўкі, а дзеля гэтага трэба падняць цэну на тавар.

Газэта піша, што:

„Прычынаў ўзросту цэн трэба шукаць ў другім месцы. Фабрыканты кожнай капіталістычнай дзяржавы прадаюць свае тавары ня толькі на краёвых рынках, але таксама і ў загранічных краёх. Каб здабыць гэтыя рынкі збыту за граніцай, фабрыканты прадаюць для канкурэнцыі свае тавары за межамі па ніжэйшых цэнах. Так напр. польскія фабрыканты цукру прадаюць цукер за межамі па палавіну таней як у Польшчы, бо хочуць утрымацца на гэтых рынках хаця-б пэўны час ня мелі-б з гэтага ніякага даходу, а нават і страту. Яны чакаюць суадказнага моманту, што цана цукру пойдзе ўгару І яны сабе мусяць зарабіць.

Аднак, каб пакрыць сабе страты пры прадажы напр. цукру, ці іншага тавару за граніцай, яны падвышаюць цану гэтых тавараў у краі так, што той самы тавар у Польшчы (напр. вугаль, цукер і г.д.) каштуе два разы столькі, што за за межамі. Такім чынам і селянін і работнік кожнага капіталістычнага краю мусяць з сваіх малых засабаў пакрываць ўсе затраты фабрыкантаў пры прадажы тавараў за межамі. Гэта ёсьць адна з прычын, чаму цэны прамысловых тавараў зьяўляюцца высокімі.

Ёсьць яшчэ іншыя прычыны. У кожнай фабрыцы ці капіталістычным прадпрыемстве ёсьць розныя дырэктары, заступнікі дырэктараў, інжынеры, вышэйшыя урадоўцы і г. д. Усе яны бяруць вялізарныя пэнсіі, па 10 і больш тысяч злотых месячна і, апроч таго, працэнты ад агульнага абароту выраблены тавараў. Гэтыя пэнсіі, а не галодны заробак рабочага, уплываюць відавочна таксама на падвыжку платы“.

*Чытач.*

СЯЛЯНЕ і РАБОТНІКІ! ВЫПІСВАЙЦЕ і ПАШЫРАЙЦЕ СВАЮ „БЕЛАРУСКУЮ ГАЗЭТУ“.

# Весткі з-за граніцы

## У Кітайскім катле

Ужо трэці месяц прадаўжаецца канфлікт паміж савецкім і кітайскім урадам. Да гэтага часу няма пэрспэктываў на мірнае яго залагоджаньне. Напады белагвардзейцаў і кітайскіх войскаў на савецкую тэрыторыю прадаўжаюцца. Ня гледзячы на ноты і на мірнае захаваньне савецкага ўраду, нацыяналістычны урад Кітаю, падсычваны імпэрыялістамі ўсяго сьвету ня спыняе свае правакацыйнае работы на савецка-кітайскім пагранічч. Шмат ёсьць ахвяраў гэтай агіднай працы кітайскага буржуазнага ураду. Ня гледзячы, на ўсё гэта, савецкі ўрад не дае сябе справакаваць на выступленьне. Тут выяўляецца яго запраўды мірная палітыка. Ён непарушна стаіць на грунце абароны зваеў работніцкае клясы СССР.

Ужо апошнія газэты даносяць весткі аб магутным узросьце новай хатняй вайны у Кітаі.

У наступным нумары дамо больш падрабязны агляд падзеяў на Далёкім Усходзе.

## У Індыі кіпіць

Гэраічная барацьба бамбэйскіх работнікаў цягнецца ўжо чацьверты месяц. 100 тысяч работнікаў гораду Бамбэю вядуць барацьбу не на жыцьцё, а на сьмерць з „радзімым“ і замежным капіталам. Яны добра ўсьведамілі сабе, што адзіны і запраўдны шлях іх вызваленьня, гэта бязлітасная барацьба за штодзенныя патрэбы.

Па прыкладу бамбэйскіх тэкстыльных работніцкіх масаў, нядаўна пралетарыяті іншых галінаў прамысловасьці пайшоў на барацьбу за направу свайго быту.

У адказ на жаданьне капіталістаў прагоўжаць рабочы тыдзень з 52 да 60 гадзінаў, работнікі джутавых*) фабрыкаў у Калькуце абвесьцілі забастоўку. Палажэньне работнікаў у гэтай галіне прамысловасьці надзвычай цяжкое. Паміма такога доўгага рабочага дня, заработная плата самая мінімальная, а тым болей для кабет і моладзі, якія складаюць амаль трэцюю частку ўсіх рабочых і атрымліваюць ў некалькі разоў меншую плату.

Аднак хцівасьць капіталістаў ня можа абмежыцца. Яны хацелі вырваць з рук работнікаў і гэтае мізэрнае, неабходнае для утрыманьне паўгалоднага жыцьця. Работнікі джутавай прамысловасьці, ня гледзючы на тое, што большасьць з іх выйшаўшыя нядаўна з вёскі, ня гледзячы на сваё сялянскае паходжаньне і не загартаванасьць у рабоце, дружна выступілі супроць наступу капіталістаў, супроць новага замаху на жыцьцёвы ступень пралетарыяту. 310 тысячная работніцкая армія Калькуты, ня гледзючы на сваю слабую арганізаванасьць, сталі шчыльным фронтам супроць агульнага фронту капіталістаў, улады і рэфармістых. Некалькі разоў ужо бастуючыя работнікі мелі сутычкі з паліцыяй. Адбываліся бойкі. Ёсьць шмат забітых і раненых. Гэта аднак ня можа спыніць імкненьне работніцкае клясы Індыі да свайго вызваленьня, да барацьбы з сваімі эксплёататарамі. Паміма Калькуты ў шмат іншых прамысловых гарадох пачынаюцца забастоўкі работнікаў.

Такім чынам, у Індыі кіпіць. Такія па

*) Джут — індыйская канопля.

дзеі, як бамбэйскія і калькуцкія, забастоўкі ў драбнейшых прамысловых цэнтрах, якія ператвараюцца ў палітычную барацьбу індыйскага пралетарыяту, кажуць нам аб тым, што Індыя напярэдадні вялікіх здарэньняў, калі пралетарыят адкрыта пойдзе на заваёву для сябе ўлады. І барацьба т. зв. „работніцкага“ ураду Мак-Дональда, якога так расхвальваюць нашы „Пэпэсы, Хадэкі“ і т. д. з рухам індыйскага пралетарыяту пры помачы страшэннага тэрору, пры помачы подкупу і распальваньня нацыянальнай ненавісьці, ня можа спыніць гэтага магутнага працэсу, надыходу перамогі індыйскіх работніцкіх масаў над капіталам, і над яго служкамі Макдональдамі.

## Падзеі ў Палестыне

Палестына гэта — старонка на усходнім беразе Міжземнага мора, якая у сучасны момант знаходзіцца пад „кантролем“ ангельскага—„работніцкага“ ураду Макдональда. Жыхароў у Палістыне каля 860 тысячаў, з якіх 84 прац —арабы і каля 16 прац. жыды:

Пасьля сусьветнае вайны, ангельская буржуазія, каб умацаваць сваё палажэньне над Суэцкім Каналам, пастанавіла за усялякую цану стварыць ў Палестыне для сябе моцны пункт апоры. На помач ёй тут прыйшоў сыонізм, які зьяўляецца вынаходкам жыдоўскай буржуазіі для ашуканя масаў. Пасьля вайны Ангельскі урад запавядаў стварэньне ў Палестыне т. зв. „Нацыянальнага вогнішча для жыдоўскага народу.“ Аднак запраўдныя мэты ня мелі нічога супольнага з гэтым запавяданьнем. Ангельскія капіталісты у сутнасьці рэчаў імкнуліся пры пасярэдніцтве жыдоўскай буржуазіі здабыць для сябе магчымасьць эксплёатацыі, як жыдоўскіх, так і арабскіх работнікаў. Гэта супярэчыла інтарэсам арабскіх працоўных масаў, якія ўжо даўно вядуць нацыянальна вызваленчую барацьбу з-пад чужых уплываў, тымбольш, што пры пабольшаньні калянізацыі павялічвалася эксплёатацыя рабочых, у першую чаргу арабскіх, якія, як відаць з папярэдняга, складаюць каля чатырох пятых усяго насяленьня. У апошнія часы арабскі рух значна узрос. Рабаваныя арабы жыдоўскай калянізацыяй давалі і даюць адпор, як жыдоўскай, так і ангельскай буржуазіі.

Нездаваленьне арабаў ўвесь час расло дзеля таго, што жыдоўская меншасьць карысталася рознымі прывілеямі, а жыцьцё арабаў ўвесь час пагаршалася. І да волі было такога інцындэнту, як „змаганьне“ за „Сьцяну Плачу“, каб Палестына сталася месцам крывавых боек паміж арабамі і жыдамі. Некалькі сот забітых і яшчэ больш раненых, вось рэзультат гэтага змаганьня, якое не сьціхае і да гэтага часу. Ангельскі „рабочы“ урад Мак-Дональда гуляе сабе у „дабрадзея“, прадстаўніка „цывілізаванага“ сьвету і войскі яго страляюць ў арабскіх паўстанцаў, баронячы інтарэсы ангельскіх капіталістаў і жыдоўскай буржуазіі.

## Навязаньне дыплёматычных адносінаў паміж Савецкім Саюзам і Англіяй

Як вядома, адным з пунктаў выбарчае кампаніі т. зв. „работніцкае партыі“ Англіі было навязаньне дыплёматычных і гандлёвых адносінаў паміж Англіяй і Савецкім Саюзам“. „Рабочай партыяй“ гэта была выкарыстана выключна з мэтай прыцягненьня на сваю сторану шырокіх работніцкіх масаў, для здабыцьця большае колькасьці мандатаў, бо савецка-ангельскія адносіны былі і ёсьць ў інтарэсах ангельскіх работнікаў. У сутнасьці, Макдональду, так як і яго папярэднікам, зусім ня хадзіла аб узнаўленьні адносінаў з СССР.

Што гэта так, а ня іначай, выявілася адразу пасьля прыходу да улады „работніцкага“ ураду на чале з Макдональдам. Гэты апошні праз пару месяцаў запрапанаваў Савецкаму Саюзу прыслаць свайго прадстаўніка ў Лёндан для вядзеньня перагавораў, у справе спорных пытаньняў. Савецкі урад адказаў, што трэба спачатку навязаць дыплёматычныя адносіны паміж абодвымі урадамі, вызначыць паслоў і тагды вясьці перагаворы аб спорных пытаньнях, г. зн. аб прапагандзе і гандлі. Макдональд на гэта не згадзіўся. Значыць, павёў тую самую палітыку, што і яго папярэднікі—цьвёрдалобыя кансэрватары.

Аднак пасьля, пад націскам работніцкае клясы, „работніцкі“ урад Макдональда у асобе Гэндэрсона пашоў на уступкі перад савецкім прадстаўніком Даўгалеўскім. У сувязі з гэтым дыплёматычныя адносіны навязаны.

Макдональд пайшоў на уступкі перад савецкім урадам не дзеля таго, што быў зацікаўлены у навязаньні адносінаў з Саветамі, а дзеля таго, што баяўся страты уплываў на работніцкаю клясу.

## Растрэл бастуючых работнікаў у Румыніі

Нядаўна ў Румыніі адбылася забастоўка Жылаўскіх гарнякоў. Распачалася яна 3 жніўня г. г.

Да забастоўкі прыступіла 3 тысячы гарнякоў, якія высунулі выключна эканамічныя жаданьні: павялічэньня платы і 8 гадзіннага рабочага дня. Ня гледзячы на страшны тэрор з боку урадавай паліцыі, работніцкія масы трымаліся адважна. Але ўжо праз некалькі дзён, так зв. „сялянскі“ урад, на чале якога стаіць Маніў, даў загад жандармэрыі самым рашучым спосабам змагацца з забастоўкаю і вярнуць спакой. Той урад, якога так расхвальваюць Пэпэсы, Вызваленцы і ўся іншыя ўгода, як урад „дэмакратычны“, зрабіў крывавую лазьню з галоднымі работнікамі. Жылаўскі раён быў перапоўнены паліцыяй і войскам.

Вось, як піша аб гэтым „Il. Kur. Codzienny“ з дня 8 жніўня.

„У трываючым ад учора страйку гарнякоў у Седмігродзкім басэйне, у якім бярэ удзел 3,000 гарнякоў, дайшло да катастрофальнай сутычкі паміж бастуючымі і войскам. Работнікі акружылі электроўню капальні, ранячы пры гэтым цяжка дырэктара электроўні і прымушаючы працуючых да спыненьня працы. Пакліканае на дапамогу войска было спаткана гарнякамі традам каменьняў. У адказ пачулася некалькі стрэлаў, у сувязі з чым 15 забітых, а некалькі сот рабочых раненых. Сярод гарнякоў панує вялікая паніка. Урад у басэйне сабраў полк пяхоты“.

Так адказаў „сялянска-дэмакратычны“ урад галодным работнікам. Запраўды забітых не 15, але 32 рабочых і ужо шмат раненых памёрла. Растрэл гэты мае вялікае значэньне для усяго работніцкага руху. Ён сьведчыць аб тым, што масавы работніцкі рух, ня гледзячы на страшны тэрор, як з боку буржуазіі, так і сацыял-дэмокрацыі, з кожным днём набірае шырэйшых формаў, што масы з кожным днём радыкалізуюцца і пераходзяць ад абароны да наступу. У часе гэтай забастоўкі сацыял-дэмократыя, родная сястрыца нашых Пэпэсаў, Вызваленцаў і ім падобных, яшчэ раз даказала, што яна з кожным днём ўсё цясьней і цясьней зрастаецца з буржуазным дзяржаўным апаратам для барацьбы супроць рабоча сялянскага руху, і гэтым самым зрабіла яшчэ адзін крок наперад да аканчальнага разрыву сябе з масамі работнікаў і сялян.

## КАРОТКІЯ НАВІНЫ

- *Забастоўка ў Люблінскіх пякарнях.* У Любліне распачалася забастоўка пекароў, якія жадаюць 50 прац. падвышкі зарабатнай платы.
- *На абшары Горадзеншчыны* у сучасны момант—істнуе 948 безработных.
- 108 *асоб ў Варшаве ў месяцы* чэрвені прабавалі пакончыць самагубствам.
- *Страты пажару, які здарыўся ў* апошнія часы у Іў'і, (Лідзкі павет) выносяць 2 з паловай мільёны злотых.
- *У Львове.* На падставе загаду Станіславоўскага Старасты зьліквідавана бол шасьць аддзелаў прафсаюзу работнікаў публічнага ужываньня.
- 9,000 *дзяцей бяз школ ў Варшаве.* Газэты даносяць, што у Варшаве з пачаткам г. школьнага году знаходзіцца 9,000 дзяцей бяз школы. У прошлым годзе было каля 5,000.
- 7,300 *безработных,* як падае „Hazeta Warszawska“ ёсьць ў сучасны мамэнт у Чэнстахове. Лічба гэтая з кожным днём павялічываецца.
- 578 *гарнякоў атрымала сьмерць* ў сілескіх капальнях у працягу 4-х гадоў ад 1925 да 1929 г. Пры гэтым некалькі дзесяткаў тысяч цяжка і лёгка раненых.
- *Газэты падаюць вестку* аб разьвіцьці культуры і фільмовага мастацтва у Савецкім Саюзе. І так там, існуе 10 фільмовых прадпрыемстваў пад надзорам ураду, ў 1928 г. вытварылі яны 119 фільмаў нармальных і 140 навукова-папулярных. У сучасны мамэнт будуюцца дзьве вялікія вытворні—адна ў Маскве (коштам больш як 2 мільёнаў даляраў) другая ў Кіеве.
- *„Край Саветаў“ на Алясцы.* На поўвыспе Алясцы, які знаходзіцца на паўночным заходзе Амэрыкі апусьціўся савецкі самалёт „Край Саветаў“, які адбывае лёт з Масквы да Нью-Іорку. Самалёт праляцеў ўжо каля 13,000 кіл.
- *У Аргэнтыне выбухла забастоўка* партовых і трамвайных работнікаў.
- *Дзьве камуністычныя рады-станцыі* выкрыта нямецкай паліцыяй у Гліўіцах у Горнай Сілезіі. Адна станцыя разсылала свае тэлеграмы, працуючы на кароткіх хвалях, а другая на даўгіх.
- *У Турцыі ў г. Сьмірне* засуджана 22 камуністаў за антыдзяржаўную дзеяльнасьць ад 8 да 2 гадоў вастрогу.
- *У Грэцыі* 23—7 гг. адбыліся крывавыя падзеі. Бастуючыя тытунёвыя работнікі наладзілі маніфэстацыю перад італьянскаю фабрыкаю. Паліцыя пачала страляць. Ранена каля 15 работнікаў.
- *Ангельская паліцыя* гумовымі палкамі разагнала безработных, якія дамагаліся дапамогі і працы.

Вось якімі мерамі змагаецца Макдональд з безрабоцьцем.

- *Польскі вываз* у пару апошніх гадоў апіраўся у вялікай ступені на экспорце дрэва. Дасягаў ён 25 прац. вытворчасьці ўсяго вывазу.
- *У Амэрыцы, ў Новым Арлеанез*

прычыны гэнэральнай забастоўкі трамвайных працаўнікоў — дайшло да крывавай барацьбы паліцыі з бастуючымі. Паміж паліцыяй і бастуючымі адбываліся фармальныя бойкі, падчас якіх некалькі сот забітых, а яшчэ больш цяжка раненых.

*У Індыі арыштавана чатырох* выдатных індыйскіх палітычных кіраўнікоў і 7 іх прыхільнікаў за удзел у забароненым урадам дэмонстрацыйным паходзе.

# КАРЭСПАНДЭНЦЫІ

## З жыцьця рабочых і сялян Баранавіцкага павету

Кравецкая прамысловасьць у Баранавічах. Кравецкая прамысловасьць толькі дробная (г. зв. „халупціна".) Найбольшыя майстроўні маюць 5-10 работнікаў, залічваючы сюды і вучняў. Кравецкія работнікі працуюць 10-12 гадзін у дзень, зарабляючы 40 42 зл. у тыдзень. Вучні працуюць 12-14 гадзін у дзень. Аднолькавых умоваў працы няма. Каждая майсторуня мае свае асобныя ўмовы працы і платы. Прафсаюз адзежных работнікаў „Ігла" мае каля 100 сяброў. Пры гэтым, трэба адзначыць, што ўсе работнікі-краўцы належаць да прафсаюзу. Да прафсаюзу належаць, як беларусы, так і жыды. Сябры саюзу пераважна—жыдоўская моладзь. Пры прафсаюзе ёсьць „сэкцыя моладзі." Прафсаюз у руках „Бунду." На маё пытаньне у сэкратаршы прафсаюзу, чаму так слаба арганізаваны работнікі кравецкае прамысловасьці, яна адказала, што гэтаму віною цяжкае матэр'яльнае палажэньне прафсаюзу і недахоп актыўных сіл. На прапазыцыю, каб прафсаюз правёў акцыю за 8-гадзінны рабочы дзень і лепшыя ўмовы працы—адказана, што гэта немагчыма дзеля слабое арганізацыі работнікаў і канца летняга сэзону, у зьвязку з якім ужо пачалася рэдукцыя краўцоў, а часткова і поўнае спыненьне працы ў некаторых майстроўнях. Нядаўна меўся адбыцца агульны сход сяброў прафсаюзу „Ігла" дзеля перавыбараў управы, але Стараста забараніў, матывуючы забарону „незлажэньнем у прыпісаным тэрміне паведамленьня аб сходзе."

*) Падаём гэтую вялікую карэспандэнцыю як характэрную для настрою ўсяе Зах. Беларусі.

Палажэньне работнікаў пры будове ваяводзкае дарогі Навагарадак-Баранавічы. Работнікі занятыя пры рамонце дарогі працуюць ад усходу сонца, атрымоваючы за гэткі рабочы дзень 3 зл.—мужчыны і жанчыны 2 зл. Работы вядуцца пад назорам „drogomistша воевудзкего." Дарога папраўляецца на ваяводзкі і соймікавы кошт.

Як рэмантуецца павятовая дарога ў Гарадыскай гм. Дарога гэтая рэмантуецца за кошт Сойміку. Але стасуюць тут таксама і шарварак. На шараварак езьдзіць люднасьць Гарадыскае гм. Пры гэтым шарварак абавязвае ў гэтакай форме: з кожнае дзесяціны павінен быць 1 пешы работнік (3 зл.) Калі хто з сялян едзе з канём, дык гэта залічваецца, як 2 работнікі і лічыцца 6. зл.

Як „Кулко Рольнічэ" у Гарадыскай гм. давала сялянам пазычку на насеньне. Вясною г. г. пачалі даваць пазычкі на насеньне. Пазычкі атрымоўвалі толькі тыя сяляне, якія запісваліся ў „Кулка Рольнічэ". Каб стаць сябрам гэтага „Кулка", дык трэба ўперад даць 3 зл. упісовага і па 50 гр. месячнае складкі. Каб заманіць сялян да гэтага „Кулка", казалі, што авёс на насеньне будзе выпісаны з-за граніцы. Дык вось, некатарыя сяляне і пазапісываліся, дасталі і аўса, але не заграцічнага, а толькі ўзятага ў мясцовых абшарнікаў. Сялянам яго лічылі па 9 зл. пуд, тады як на рынку такі самы авёс каштаваў 4 зл. пуд. Гэта семянная пазычка, платная ў дзьвёх ратах: першая рата ў м-цы верасьні г. г. а другая ў лютым 1930 г.

Паліцыя заахвочвае да камасацыі. У вёсцы Вялікае-Сяло, Гарадыскае гм., на сяляніна Уладзіміра Дзяміда паліцыя сьпісала пратакол за тое што ён распачаў будавацца нязгодна з уставаю, г. ё. што яго будынкі знаходзяцца вельмі блізка ад будынкаў суседа і суседние мяжы. На доказы селяніна, што гэта немагчыма зрабіць, бо зямля ў палосках, паліцыя адказала, што трэба зрабіць камасацыю.

Гэткія выпадкі здарыліся і ў іншых вёсках.

Каму дае пазычкі „Комунальна Каса Ошчэндносьці." Пры залажэньні гэтае „Касы" ў 1927 г. Павятовы Соймік ухваліў узяць пазычку ў суме 500.000 зл. і даваць пазычкі кожнаму селяніну. Але цяпер гэта зьмянілася. Цяпер „Камунальна Каса Ошчэндносьці" дае пазычкі толькі ў суме ня меншай як 1.200 зл. і вымагае, каб „пожычкобёрца" быў заможны, г. ё. меў 5 кароў, 2-3 коні і г. д.. а таксама, каб меў такіх-жжа 2 паручыцеляў.

Ліквідацыя сэрвітаў. У вёсках: Крывое Сяло, Гарадыскае гм. Баранавіцкага пав., Котоўшчына, Быткоўшчына і Юлізароўшчына, Цырынскае гм. Навагрдзкага пав., ідзець цяпер ліквідацыя сэрвітутаў. Сяляне гэтых вёсак аднак, не згаджаюцца на гэтую ліквідацыю, пры якой ім дастанецца толькі 13-ая частка таго абшару, на якім яны пасьвілі жывёлу да гэтай пары. Апрача таго абшарнік сьцінае лес з вучастку, які адходзіць да сялян. На грунце гэткае ліквідацыі ў вёсцы Крывое Сяло дайшло да таго, што абшарнік Гэйштот хацеў зсячы лес з сэрвітуту, аднак сяляне да гэтага не дапусьцілі. Пасьля гэтага тойжа абшарнік хацеў прадаць гэты лес, аднак і гэта яму не ўдалося дзеля спраціву сялян. Так цягнулася даволі доўга. Цяпер прыехала паліцыя і „комісаж земскі", каторы „осьвядчыл", што ўсё роўна сэрвітут будзе зьліквідаваны, хаця-ж бы паперы трэба было рабіць пад аслонаю паліцыі.

Як сяляне змагаюцца з камасацыяй. 1) Вёска Кунічы, Цырынскае гм., Навагрдзкага пав. ужо два гады як скамсавана. Камасацыя гэтая была зроблена паміма таго, што большасьць сялян ня была на яе згодна. Дык паміма таго, што ўся зямля ўжо размерана і акапцавана, сяляне ня перабудоўваюцца на азначаныя ім вучасткі, а жывуць далей у вёсцы і робяць зямлю па старому.

2) У вёсцы Яцьвязь, Вальнянскае гм., Баранавіцкага пав., у мінуўшым годзе 6 сялян падалі паданьне аб скамсаваньні іх вёскі. Адзін з гэтых 6 меў 15 дзесяцін зямлі, адзін — 9 і рэшта ад 5 да 2 дзесяцін. Дня 10 ліпня г.г. прыехаў у гэтую вёску „комісаж земскі" з Баранавіч і, сабраўшы сход, хацеў, каб сяляне згадзіліся на камасацыю. Аднак, усе сяляне, за выняткам толькі 6, запратэставалі і не згадзіліся на камасацыю. Тады „комісаж" сказаў, што ён толькі аб'едзе сягоньня граніцы зямлі гэтае вёскі і іх пратэст падасьць да ведама належных уладаў, а да іх прыедзе ў восень і тады дасьць адказ, што будзе з камасацыяй. Аб'ехаўшы граніцы і запісаўшы, хто і колькі з сялян мае зямлі „комісаж земскі" паехаў дамоў.

Агульны настрой у вёсцы проці камасацыі і сяляне кажуць, што хай ім і зробяць паперы і акапцаваньне, аднак яны перабудоўвацца ня будуць.

* * *

Сяляне цікавяцца палітычнымі падзеямі. Дзеля недахопу беларускае газэты яны карысталіся толькі слухамі. На розныя рэпрэсіі больш сьвядомыя рэагуюць масавымі пратэстамі. Найлепшыя адносіны да Бел. Сял.-Раб. Пас. Клюбу Сяляне цікавяцца працай Клюбу і ўсюды адаюць, каб паслы да іх прыехалі на мітынг.

Адносіны сялян да камасацыі, у Баранавіцкім пав., наагул варожыя. Праўда, што багацейшыя сяляне хочуць каб камасацыя адбылася, але тут сустрэкаюцца з адпорам беднякоў.

„Кулко Рольнічэ", „Касы Стэфчыка", „Стшэльцы" як і наагул усе падобныя арганізацыі пасьпеху сярод сялянства ня маюць.

Беларуская угода ўплыву ў Баранавіцкім павеце зусім ня мае. Мае яшчэ трохі уплыву ППС. у некалькіх вёсках Ястрабскае гміны, але гэта — рэшткі былое роскашы.

*Мясцовы.*

## МІТЫНГ ПАСЛОЎ З БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА-РАБОТНІЦКАГА ПАС. КЛЮБУ У м-ку ОРЛЯ БЕЛЬСКАГА ПАВ.

Дня 9-га кастрычніка г. г. на рынку у м. Орля, у сувязі з адбыцьцём там фесту, паслы з Бел. Сял.—Раб. Пас. Клюбу Ф. Валынец і Я. Грэцкі зрабілі першы у гэтым годзе, не забаронены уладамі, мітынг, які яшчэ раз падкрэсьліў тое, што масы радыкалізуюцца, масы

дуць на лева і што гэтага працэсу няўдасцца стрымаць буржуазіі і яе служкам. Гэты мітынг наглядна паказаў, што сацыял-угода, як беларуская, так і польская, аканчальна разрывае з працоўнымі места і вёскі, што ня гледзючы на яе здрадніцкія манэўры, ня гледзючы на прыгожыя словы, яна ня можа ўжо трымаць масы пад сваім уплывам.

Перад тым, як меўся распачацца мітынг, Пэпэсяцкі пасол Дубоіс, (Дюбуа) выступіў на рынку з прамоваю першы, думаючы гэтым адцягнуць людносьць ад запраўдных сваіх абаронцаў і хочучы выкарыстаць гэты мамэнт для таго, каб пры помачы маны і аблудных фразаў пасеяць ненавісьць да Бел. Сял. Раб. Пасольскага Клюбу. Гэта быў спосаб, якім буржуазія і яе служыкі хацелі разьбіць мітынг. Аднак людносьць не далася абмануць сябе.

Зараз-жа гр. Чарняўскі адчыніў мітынг. На трыбуну узышоў пасол Грэцкіі Як толькі людносьць пачула яго голас, пакінула Дубоіса і морам хлынула да Грэцкага і Валынца. Дубоіс застаўся адзін і некалькі прывезеных ім „баювкажы.“ Рабіць нічога не заставалася. Ён зараз-жя злез з воза і як мага ўцёк з рынку. Тымчасам на мітынгу сабралася ўжо людносьці каля двух тысяч.

П. Грэцкі ад імя Бел. Сял. Раб. Пас. Клюбу прывітаў масы Бельшчыны і ў сваёй гадзіннай прамове акрэсьліў палажэньне у З. Б., заданьні працоўных места і вёскі, спятнаў здрадніцкую ролю сацыял—угоды, як польскай, так і беларускай, і падгучныя лезунгі „Няхай жыве саюз рабочых і сялян,“ і інш лёзунгі. Лёзунгі гэтыя былі падхопляны тысячамі вуснаў рабочых і сялян.

Пасьля яго выступіў п. Ф. Валынец. Ён акрэсьліў міжнароднае палажэньне. Паказаў нарастаньне супярэчнасьцяў у капіталістычным сьвеце, пагрозу новых імпэрыялістычных войнаў, а ў першую чаргу—вайны імпэрыялістаў ўсяго сьвету супроць першай дзяржавы рабочых і сялян—СССР, роль угоды ў гэтай падгатоўцы, паказаў на канкрэтныя факты надходзячай вайны, як падзеі на Далёкім Усходзе, канфэрэнцыя ў Газе, паездка Макдональда ў Амэрыку і т. п.

„Прэч з імпэрыялістычнай вайной.“

„Няхай жыве барацьба працоўных за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне“ — пачуліся лёзунгі з вуснаў двухтысячнае масы рабочых і сялян.

Мітынг гэты — доказ сьвядомасьці рабочых і сялян. Ён кажа, што дарэмныя высілкі беларускіх угадоўцаў Луцкевічаў, Станкевічаў і ім падобных. Ім не ўдасца стрымаць бегу гісторыі. Працоўныя масы ідуць і будуць ісьці сваім шляхам, шляхам барацьбы за поўнае вызваленьне.

*Прысутны селянін.*

## „ПАРАДКІ“ ЗУСІМ НІШТО САБЕ.

Большасьць сялян вёскі Сяледчыкі, Ракаўскай гміны, Маладэчанскага пав. з сваіх гаспадарак пражыць ня могуць. Змушаны наймацца на працу у маёнтку Вязынку, да пана Язэпа Забрыцкага, сеяць на яго зямлі збожжа і г.д. Якія-ж варункі працы у пана? У часе сушэньня сена, напр., жанчыны працуюць па 12—14 гадз. дзенна, атрымоўваюць за гэта 1,26 зл. Каб пасеяць адзін гарнец лёну, трэба два дні жаць. На дзесяціну выйдзе каля 50-ці гарцаў лёну—будзь ласкаў даць пану 100 жней. Зьдзекі, больш нічога! Ёсьць таксама у гэтай вёсцы сэрвітут. Пан і тут заводзіць „парадкі“. Дасьць батраком па пачцы махоркі, а тыя давай таняць сялянскую жывёлу з сэрвітуту, як, напр. рабіў гэта Янкоўскі Язэп і інш.

*Батрак.*

# САМАЎРАДАВЫЯ СПРАВЫ

## ВЫБАРЫ Ў КАЗЛАВЕЦКУЮ ГМІННУЮ РАДУ

(Казлоўскае гм.)

На выбары прыехаў сам Стараста з сваімі памочнікамі. Найбольш галасоў атрымала група сялянска-работніцкіх кандыдатаў у ліку 6 чалавек на 14 радных. Убачыўшы, што ўсё-ж такі прайшлі б. грамадоўцы, кіраўнікі выбараў пачалі круціць, і замест 6 асоб прашло толькі 3. Рэшту-ж, г. зн. Кастуся Коску, Сяргея Мазаля і Адама Калюціка пакінута ў кандыдаты, хоць яны атрымалі па 45—47 галасоў, тады, як прайшоўшыя ў раду Гарадка, Леўданскі і іншыя панскія служкі мелі ўсяго па нейкіх 30 галасоў. Сьведамыя выбаршчыкі падалі пратэст на гэта, але ніякага адказу не атрымалі. Надпісалася 30 чалавек.

*Змагар.*

## ВЫБАРЫ ГМІННАЕ РАДЫ

(Баранавіцкага павету).

Па абводах у Волянскай воласьці выбары 7. 6 г.г. прайшлі добра можа дзеля таго, што самаўрадавы інспэктар дапамагаў сваімі агністымі прамовамі, дзе прапанаваў выбіраць „добрых“, што маюць многа зямлі, каб маглі забясьпечыць сваё становішча, каб ня былі палітыкі, бо іх зараз-жа за „лэб“. Сяляне аднак мала слухалі гэтых „прыгожых“ слоў. Адно шкада, што сяляне многа загубілі галасоў надарма, укладаючы некалькі сьпіскаў, а не ўтварылі аднаго сялянска-работніцкага блёку.

*Хільман.*

# З РАДАВАЙ БЕЛАРУСІ

СТАЛЁВЫЯ КОНІ. У ініцыятыве Ураду Сав. Беларусі ідзе трактарызацыя саўхозаў, калхозаў і камуны. Спадзяюцца, што замена коняй трактарам ў саўгасаў дасьць эканом ў 1.000.000 р.

БЕЛАРУСКІЯ ПІЯНЭРЫ ЗА ШПАРЧЭЙШАЕ ПАДНЯЦЬЦЕ С. ГАСПАДАРКІ. На X-ай ўсебеларускай канфэрэнцыі піянэраў пастаноўлена і на далей цыркладаць ўсе высілкіна падняцьце сельскае гаспадаркі і яе калектывізацыі Цікава адзначыць, што на гэтым зьезьдзе 5-6 гадавыя хлопчыкі і дзяўчаткі выказалі не дзяціную сьвядомасьць ў палітычным, эканамічным і культурным жыцьці сваей Бацькаўшчыны.

3-АЯ УНУТРАНАЯ ДЗЯРЖАЎНАЯ ПАЗЫЧКА НА ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫЮ, На апошнім паседжаньні Менскай акружнай камісіі садзейнічаньня дзяржаўнага крэдыту быў заслуханы даклад аб рэалізацыі пазыкі: З дакладу выяніслася, што галоўная каса ашчаднасьці дала ўжо 231.000 руб. Белсельбанк даў ужо 50.000 80 Работнікі фабрыкі „Меншвэй‘ далі 100. 000, заводу „Камунар“ 100,000 р..

Камісія адзначыла, што рэалізацыя пазыкі пасьпешна ідзе і сярод сялян вёскі, асабліва калектываў і камун.

Так, сяляне Гарадокскага раёну далі 32.000 р. Арганізаваныя саматужнікі сабралі 4.400 руб.

Некаторыя прадпрыемствы ўжо па рэвалізацыі выканалі сваё заданьне на 100 пр. з лішкам.

Гэта пазыка мае пайсьці на прамысловасьць Савецкай Беларусі.

ПАШЫРЭНЬНЕ ПАСЕЎНАЙ ПЛОШЧЫ НА ПРАЦ. У САЎГАСАХ. Сёлета пасеўная плошча ў сагасаў павялічылася ў параўнаньні з мінулым годам на 7 прац. Засеена 7.640 гэкт. пад азіміну, з гэтае плошчы—500 гэкт. пад пшаніцай, 300 гэктараў пад азімай вікай, а рэшта гатункавым жытам. Засеяна 85 прац. ўсей плошчы радавым сяўнікам, заместа 36 прац. у мінулым годзе. У 88 саўгасаў падрыхтаваны штучныя вынасы ад 3 да 5 гэктараў у кожным. Намечываецца праца, каб у 1930 годзе ўсе саўгасы мелі штучныя вынасы.

МЕНСКІЯ ЦЯГЕЛЬНІ ПЕРАВЕДЗЕНЫ НА ЦЭЛЫ (БЕЗПЕРАПЫНКУ) ВЫТВОРЧЫ ГОД. У сувязі з ростам будаўлянага руху, ўсе Менскія цагельні пераведзены на круглы вытворчы год. Цагельні маюць прэсы, уся работа, нават і падача сыравіны мэханізавана. Цагельня ўжо мае магчымасьць штодня выпускаць 70.000 штук цэглы.

Работнікі цагельняў перайшлі да сацыялістычнага спаборніцтва, што даець ўжо наступныя вынікі: на 10 паменшыўся брак, на 10-12 прац. паменшыліся выдаткі на апал, выгрузка ўзмоцнена на 25 прац.

БЕЛАРУСКАЯ КІНО-ФАБРЫКА. Урадам Савецкае Рэспублікі адпушчана сума 2.500.000 рублёў на будоўлю беларускай кіна-фабрыкі. Праэкту, што апошнія ў сэнсе тэхнічнага абсталяваньня будзе стаяць значна вышэй маскоўскай, бо кожны месяц у галіне кінаматаграфіі дае новыя удасканаленьніе.

## З ГАЛОЎНАЕ УПРАВЫ Т-ва БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЫ.

Галоўная Управа Т-ва Б. Шк. перанесена ў новае памешканьне (Вільня, Гданская, 1—5) куды просяць скіроўваць усе карэспандэнцыі.

Гэтымі днямі адбылося паседжаньне Галоўнай Управы разам з Нагляднаю Радаю, на якой прыняты пастановы аб мерах наладжэньня агранізацыйнай сеткі Т-ва, разбуранай падзеямі апошняга году ў зьвязку з „працай“ „слаўнай“ памяці Паўнамоцнай Камісіі.

Арганізацыі на мясцох запрашаюцца да адкрытай працы, ладжаньня сходаў, запісу новых сяброў, арганізацыі новых гурткоў і г. д.

Больш дэтальна аб гэтым будзе падана ў наступным нумары.

## ДА СЯБРАЎ ВІЛЕНСКАГА ГУРТКА Т-ва БЕЛ. ШКОЛЫ

На падставе пастановы Галоўнае Управы Т-ва Бел. Школы ад 7. 8. 1929 г., прапануецца сябрам Віленскага Цэнтральнга Гуртка ўнясьці залеглыя сяброўскія складкі, пачынаючы з 1 верасьня 1928 г., у працягу аднаго тыдня, лічучы ад 23 да 30 кастрычніка б. г. Складкі прымаюцца скарбнікам гуртка ў памешканьні Гал. Управы.

Рэдактар-выд. Я. Мазоль. Літэрамі У. Знамяроўскага, друк „Зожа‘, Віленская 15.